17 верасня 1994 г.
Субота
№ 102 (13819)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК






*У Баранавіцкім аэраклубе спортам смелых і дужых займаецца больш як 250 чалавек. Скачкі з парашутам — толькі для мужных, моцных целам і духам!*

Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Дзень аб'яднання беларускага народа

*Пасля нападу на Польшчу фашысцкай Германіі Чырвоная Армія распараджэннем Урада ад 17 верасня 1939 года ўзяла пад ахову насельніцтва Заходняй Беларусі. У кастрычніку адбыўся народны сход Заходняй Беларусі, які прыняў дэкларацыю аб уключэнні гэтага рэгіёна ў састаў БССР.*

### Ці адбудуцца выбары 18 лістапада 1994?

*Выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі адбудуцца яшчэ сёлета, хутчэй за ўсё, яны будуць назначаны на 18 лістапада 1994 года. Да такога вываду прыйшлі спецыялісты сацыялагічнай лабараторыі "Экумена" партыі падтрымкі СНД.*

Спецыялісты "Экумены" таксама выказалі здагадку, што на палітычную сцэну выйдзе сталая, падспудна існуючая "партыя" Лукашэнкі. І ў лістападзе гэтага года будзе фактычна паўтораны поспех на выбарах Лукашэнкі да ўсеагульнай незадаволенасці палітычных сіл, якія называюць сябе дэмакратычнай апазіцыяй.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА.**

### Не хвалюйцеся, улада на месцы!

*Гэта сцвярджае Мінскі гарвыканкам, аб "звяржэнні" якога жыхары сталіцы загаварылі пасля таго, як над яго будынкам раптам пачаў развявацца новы сцяг — блакітнае палотнішча з белай аблямоўкай.*

Як удалося высветліць карэспандэнту БЕЛІНФАРМа, гэты сцяг паявіўся тут у адпаведнасці з рашэннем Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якая "за вялікі ўклад ва ўмацаванне міру і дружбы паміж народамі" прысудзіла шэрагу еўрапейскіх гарадоў званне "Горад — пасланец міру". Адным з іх стаў і Мінск.

### Рэха расстрэлаў у 40-м

*У нашай рэспубліцы з рабочым візітам знаходзіўся намеснік генеральнага пракурора Рэспублікі Польшча Стэфан Сняжко. Па выніках яго візіту ў мінулы аўторак у Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь адбылася прэс-канферэнцыя.*

Місія Стэфана Сняжко звязана з тым, што на тэрыторыі Беларусі ў 1940 годзе органамі НКУС былі расстраляны тысячы палякаў. Польскай пракуратурай яшчэ не закончана справа аб масавых рэпрэсіях. Цяпер неабходна ўстанавіць спіс усіх загінуўшых. Суседняя з намі Украіна прадаставіла ўжо такі спіс Польшчы. У час візіту Стэфан Сняжко меў гутаркі на гэту тэму з першым намеснікам генеральнага пракурора рэспублікі Уладзімірам Кандрацьевым і старшынёй КДБ Уладзімірам Ягоравым. На прэс-канферэнцыі намеснік генеральнага пракурора Польшчы выказаў ім падзяку за садзейнічанне ў расследаванні і надзею на тое, што хутка справа гэта будзе завершана.

Аднак, паводле слоў Стэфана Сняжко, няяснасцей пакуль што хапае. Напрыклад, паводле звестак нашых археолагаў, у Курапатах пад Мінскам было расстраляна нямала і польскіх грамадзян. Акрамя таго, могуць існаваць і іншыя, невядомыя цяпер пахаванні.

Стэфан Сняжко праз журналістаў звярнуўся да ўсіх грамадзян нашай рэспублікі, каму што-небудзь вядома аб расстрэлах 1940-га, паведаміць пра гэта ў пасольства Рэспублікі Польшча.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Конкурс для сувязістаў

*Ад Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця для фінансавання праекта міжнароднай сувязі Беларусь атрымала крэдыт, эквівалентны 30,4 мільёна еўрапейскіх валютных адзінак (экю).*

Праект міжнароднай сувязі прадугледжвае паляпшэнне якасці і даступнасць паслуг электрасувязі за кошт будаўніцтва міжнародных і міжгародніх валаконна-аптычных ліній сувязі, якія маюць агульную працягласць каля 1300 кіламетраў і выкарыстоўваюць абсталяванне сінхронных сістэм перадачы.

Пастаўку, мантаж, выпрабаванне, увод у эксплуатацыю, адаптацыю з існуючай сеткай, навучанне персаналу тэхнічнаму абслугоўванню — усё гэта таксама ўключае праект. Для рэалізацыі яго быў аб'яўлены своеасаблівы конкурс на пастаўку абсталявання і паслуг, які выклікаў шырокую цікавасць вядучых сусветных фірм па вытворчасці неабходнага абсталявання і кабельнай прадукцыі. Удзел у конкурсе прынялі 45 замежных кампаній, у тым ліку і такія сусветна вядомыя, як "Эрыксан" са Швецыі, "Макроні" з Італіі, "Алкатэль" з Францыі.

Рабочая камісія Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі пачала ацэнку пададзеных прапаноў і заключэнне кантрактаў па выкананню намечанай праграмы.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Літва візы адмяняе...

*Па каналах Літоўскага тэлеграфнага агенцтва (ЭльТА) з Вільнюса паступіла паведамленне, што ўрад Літоўскай Рэспублікі прыняў рашэнне часова, да 1 студзеня 1995 года, прыраўнаваць запрашэнне для грамадзян краін СНД прыбыць у Літоўскую Рэспубліку да візы Літоўскай Рэспублікі.*

Як растлумачылі карэспандэнту БЕЛІНФАРМа ў пасольстве Літоўскай Рэспублікі, гэта азначае, што грамадзянін СНД, які мае неабходныя дакументы для выезду за мяжу, атрымаўшы запрашэнне з Літвы, ужо не абавязаны звяртацца ў Літоўскае пасольства для афармлення візы.

**БЕЛІНФАРМ.**

### ... а Беларусь наадварот

*"Прыязджайце ў зону, пагранічную..." Так жыхары Пастаўскага раёна пачынаюць лісты да сваіх родных. І абавязкова дадаюць: прыязджайце пасля таго, як вышлем адпаведную даведку-запрашэнне.*

З пачатку верасня тут і сапраўды пагранічная зона. Вяскоўцы маюць у пашпартах адпаведную адзнаку. А таго, хто не мае, пэўныя службы могуць затрымаць аж да 10 сутак да высвятлення абставін. А "чужака", які заехаў у населены пункт паблізу граніцы, каб, напрыклад, праведаць родных ці пакланіцца магіле бацькі, могуць аштрафаваць на 5—20 мінімальных зарплат.

### Плаці, студэнт, — дыплом атрымаеш

*Ні для каго не сакрэт, што сёння кожны выжывае, як можа. Не з'яўляецца выключэннем і Беларускі аграрна-тэхнічны універсітэт.*

Студэнтам усё часцей даводзіцца заглядваць у свой кашалёк. Так, завочнікі факультэта электрафікацыі сельскай гаспадаркі, не паспеўшы пераступіць парог "альма-матэр", былі "прыемна" здзіўлены, калі даведаліся, што за пропуск заняткаў ім давядзецца заплаціць 0,4 працэнта мінімальнай зарплаты, аднаго дня вучэбнай практыкі — 0,4. Пераздача экзамену ці заліку каштуе 0,15 працэнта. Тым, хто незнарок згубіць залікоўку ці студэнцкі білет, таксама давядзецца раскашэліцца. Дый само атрыманне студэнцкіх дакументаў таксама не бясплатнае. Ну, а тым, каго адлічаць за непаспяховасць, і наогул будзе туга. Каб зноў трапіць у шэрагі студэнтаў, трэба выкласці з уласнай кішэні 12 мінімальных зарплат.

Напэўна, вышэйзгаданыя меры прымусяць юнакоў і дзяўчат больш адказна аднесціся да вучобы, і нават дапамогуць стаць высокакваліфікаванымі спецыялістамі. Аднак не дае спакою думка, што ў многіх маладых вяскоўцаў грошай "кот наплакаў", бо крайне нерэгулярна выдаюць зарплату ў калгасах і саўгасах. Няўжо давядзецца ім выбіраць паміж тлусцейшым кавалкам і адукацыяй?

**Вера ШЧЭЦІНА.**

### Курсы валют на 16 верасня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 3360 | 3460 | 2184 | 2237 |
| "Прыор" | 3380 | 3420 | 2180 | 2220 |
| "Белбізнес банк" | 3200 | 3350 | 2100 | 2200 |

РЭПАРТАЖ У НУМАР

## Ці хутка беларуская прэса стане еўрапейскай?

□ Павел СІМАНАЎ, "ЧЗ"

*Адказ на гэтае пытанне на працягу двух дзён шукалі ўдзельнікі Еўрасемінара "Абавязкі, правы і сацыяльная абарона журналістаў", які адбыўся ў сталічным Міжнародным адукацыйным цэнтры.*

У госці да сваіх беларускіх калег прыехалі прадстаўнікі буйнейшых еўрапейскіх сродкаў масавай інфармацыі. Асноўная дыскусія разгарнулася вакол праблемы свабоды прэсы — палітычнай, фінансавай, творчай. Вось толькі некалькі меркаванняў:

**Доктар Георг Пауль Хэфці ("Франкфуртэр Альгемайне Цайтунг", Франкфурт):**

— Свабода прэсы не залежыць ад фінансавых магчымасцей і тыражу друкаванага органа. Гэта, перш за ўсё, магчымасць кожнага без якіх-небудзь папярэдніх умоў атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю. У Германіі з паняцця "свабода прэсы" вынікаюць і пэўныя абавязкі дзяржавы. Напрыклад, канстытуцыйны суд сочыць за тым, каб не было манаполіі на сродкі масавай інфармацыі, дзяржаве не дазваляецца ўмешвацца ў дзейнасць прыватных газет ці вяшчальных станцый. Аднак дзяржаўных субсідый прэсе ў Германіі не існуе.

**Спадар Бота Кірш ("Нямецкая хваля", Кёльн):**

— Журналістыка — небяспечная прафесія, прычым не толькі ва ўмовах дыктатуры, але і ў дэмакратычных краінах. Вось і я быў тройчы пад судом. У двух выпадках мяне апраўдалі, а ў трэці раз мне давялося заплаціць штраф. У дэмакратычных дзяржавах свабода друку — вышэйшая каштоўнасць, якая ахоўваецца канстытуцыяй і органамі юстыцыі. Журналісты карыстаюцца пэўнымі прывілеямі. У Германіі, напрыклад, лягчэй дабіцца адстаўкі міністра, чым звольніць з працы журналіста. Зразумела, свабода прэсы не застрахоўвае і ад злоўжыванняў. Яны заўсёды былі, і, пэўна, будуць.

**Спадар Тоні Робінсан ("Файнэшнл Таймс", Лондан):**

— Асновы асабістай свабоды і палітычнай дэмакратыі — абарона правоў уласнасці. Сацыялізм пачаўся крадзяжом уласнасці, а скончыўся крадзяжом волі.

Наша газета з'яўляецца "вачыма і вушамі" фінансавага свету, г.зн. сочыць за тым, каб захоўваліся правы ўласнасці. Роберт Максвел выкінуўся з борта сваёй яхты, таму што ведаў, што "Файнэшнл Таймс" збіраецца надрукаваць выкрывальныя матэрыялы супраць яго. **Спадар Франка Квінта (Італьянская інфармацыйнае агенцтва):**

— У Італіі няма факультэтаў журналістыкі, кожны можа стаць журналістам, гэта значыць тут у нас больш свабоды. Патрэбна папрацаваць 18 месяцаў у якім-небудзь выданні, пасля чаго здаць кваліфікацыйныя экзамены. Звычайна пад час гэтых экзаменаў адсейваецца 65—70 працэнтаў. Аднак ёсць і іншая катэгорыя журналістаў — публіцысты, якія атрымліваюць прафесійную адукацыю.

* * *

Прадстаўнікі беларускіх выданняў, у асноўным, выказваліся па фінансавых і палітычных праблемах. Удзельнікаў семінара вітаў **Надзвычайны і Паўнамоцны пасол ФРГ спадар Г.Альбрэхт.** Закранаючы тэму дыскусіі, спадар пасол, у прыватнасці, зазначыў:

— Журналісты павінны заўсёды глядзець наперад. Калі яны пачынаюць глядзець назад, то становяцца ўжо не журналістамі, а гісторыкамі, прычым, як правіла, дрэннымі гісторыкамі. Спадар Альбрэхт адзначыў таксама, што гэта ўжо другі семінар журналістаў, які праводзіцца з дапамогай нямецкага боку, прычым цяперашняя імпрэза — значна больш прафесійная і дзелавая.

Еўрапейскі ўзровень семінара засведчылі і многія іншыя яго ўдзельнікі. Застаецца толькі спадзявацца, што журналісты нашай краіны — геаграфічнага цэнтра Еўропы "возьмуць на ўзбраенне" еўрапейскія традыцыі і ў штодзённай працы.

### Навіны спорту

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА.** Чэмпіён Еўропы Уладзімір Дуброўшчык з Гродна зноў даказаў, што гэты тытул ён носіць дастойна. На камандным розыгрышы Кубка Свету па лёгкай атлетыцы наш спартсмен кінуў дыск на 64,54 м. І хаця гэта на 24 см меней за яго еўрапейскае дасягненне, тым не менш дыскабол выйшаў пераможцам. А ўдзельнічаў ён у спаборніцтвах за зборную Еўропы, у складзе якой таксама знаходзіліся нашы Эліна Зверава і Наталля Духнова. Першая з іх кінула дыск на 63,86 м, што прынесла ёй другое месца, а Наталля была трэцяй у бегу на 800 метраў.

Сярод жанчын Кубак Свету заваявалі зборная Еўропы, у мужчын — атлеты Афрыкі.

**ФУТБОЛ.** Цяперашняя восень багатая не толькі на грыбы, але і на футбол. Па-рознаму складваецца лёс каманд, якія ўдзельнічаюць у еўрапейскіх турнірах, таму і расце да яго цікавасць. Не паспелі балельшчыкі "разрадзіцца" пасля матча паміж мінскімі дынамаўцамі і рымскім "Лацыо", як пачаўся адборачны турнір чэмпіёната Еўропы сярод юнакоў. Беларускія футбалісты (узрост да 18 гадоў) у гасцях сустракаліся з равеснікамі з Малдовы і прайгралі ім з лікам 3:4. Зараз для таго, каб працягнуць турнір, нашым юным футбалістам неабходна выйграць у зборнай Балгарыі. Страчваць ужо няма чаго...

**ХАКЕЙ.** У чэмпіянаце Міжнацыянальнай хакейнай лігі, дзе гуляе мінская каманда "Цівалі", вызначыліся два лідэры. Па чатыры ачкі маюць маскоўскія "Крылы Саветаў" і ніжнегародскае "Тарпеда". Нагадаем, што ў заходняй зоне гуляюць 14 каманд, столькі ж — ва ўсходняй. Па восем з кожнай выйдуць у другі круг спаборніцтваў, дзе будуць змагацца за прызавыя месцы. Дарэчы, прызавы фонд цяперашняга чэмпіянату складае 200 тысяч даляраў. Пакуль, канешне, цяжка сказаць, хто прэтэндуе на гэтыя "баксы", але мінчанам, калі і далей так пойдзе, іх не відаць. Пасля дзвюх сустрэч яны маюць адно ачко і, як прызнаўся старшы трэнер Андрэй Сідарэнка, у каманды больш праблем, чым гульнявага вопыту.

Чарговы матч нашы хакеісты праводзяць з маскоўскім "Дынама".

**БЕЛІНФАРМ.**

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"TV-5"



Дзяжурныя па выпуску
перакладчык
Людміла КАХАВЕЦ,
рэдактар
Наталля ВАЛАКІДА.

"Суперчэннэл"

### У ПАРУШАЛЬНІКАХ... ПАЛІЦЭЙСКІЯ

*27 паліцэйскіх у Гамбургу былі арыштаваны і звольнены за парушэнні на службе.*

Паліцэйскія ў апошні час пачалі вельмі часта прымяняць сілу супраць насельніцтва. Так, напрыклад, паліцэйскі Зампалі мае ўжо 130 парушэнняў.

### ДЛЯ БАЛГАРЫІ — "ЗЯЛЁНАЕ СВЯТЛО"

*Балгарыя спадзяецца на падтрымку Партугаліі.*

Прэзідэнты Партугаліі і Балгарыі падпісалі дагавор аб увядзенні віз у Балгарыі для свабоднага ўезду ў краіны Еўрапейскага саюза. Для Балгарыі — гэта вялікі поспех. Венгрыя, Чэхія і Славакія яшчэ без віз. На перагаворах разглядалася таксама магчымасць уваходу Балгарыі ў Еўрапейскі саюз.

### ПАЛЯВАННЕ НА НАРКАМАНАЎ

*Буйныя акцыі супраць арганізаванай злачыннасці і наркаманіі прайшлі ў Італіі і ЗША.*

Паліцыя Італіі арыштавала больш за 100 прадаўцоў наркотыкамі і канфіскавала звыш 200 кг наркотыкаў. Такія аперацыі паспяхова прайшлі і ў ЗША ў раёнах горада Нью-Йорка.

### ЛЮТУЕ ХАЛЕРА

*Эпідэмія халеры ўспыхнула ў Албаніі.*

Ужо зарэгістравана 14 смяротных выпадкаў.

"Уорлднэт"

Італія занепакоена, што эпідэмія можа ўзнікнуць і ў яе межах, бо больш за 1000 албанцаў нелегальна вандруюць па краіне. Паліцыя Італіі ўзмацніла кантроль берагавой аховы, каб пазбегнуць пранікнення хворых.

Выпадкі захворвання халерай вызначаны і ў рэспубліках былога Савецкага Саюза, але, на думку ўрачоў, яны пакуль не ўяўляюць сур'ёзнай пагрозы.

### ГАІЦІ ПАГРАЖАЕ ЗША?

*Сімвал амерыканскай ваеннай магутнасці — ваенны карабель — накіраваўся ў Гаіці.*

На борце карабля знаходзіліся ваенныя самалёты і артылерыя. У чацвер Б.Клінтан выступіў па тэлебачанні, каб настроіць насельніцтва супраць ваеннай улады, якая была на востраве. Нестабільнасць на Гаіці азначае таксама палітычную і эканамічную пагрозу для ЗША.

"Еўраньюс"

### БЛАКАДА ПАД КАНТРОЛЕМ

*Праз тыдзень павінна пачацца міжнародная блакада тэрыторый былой Югаславіі і Заходняй Босніі.*

Гэта пацвердзіў кіраўнік акцыі, шведскі генерал Б.Пельшэ. Каля 135 назіральнікаў-кантралёраў будуць удзельнічаць у гэтай місіі. Іх галоўнай задачай з'яўляецца кантроль за транспартным рухам на граніцах Югаславіі, а таксама праверка сапраўднасці правядзення блакады.

### ВЫБУХ З ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ

*У Заходнім Берліне на Франкфурцкай алеі адбыўся выбух бомбы.*

Пасля расследаванняў паліцыі вызначылася, што бомба засталася яшчэ з Другой сусветнай вайны. У выніку выбуху загінулі 2 чалавекі, многія атрымалі раненні, разбурана некалькі будынкаў. Цяпер для паліцыі першачарговай задачай з'яўляецца размініраванне астатніх бомб.

### ПАДТРЫМКА ПОЛЬШЧЫ

*Францыя і Германія выказалі жаданне і ў далейшым падтрымліваць Польшчу на шляху ў Еўрапейскі саюз і НАТО.*

Гэта заявілі міністры замежных спраў Жупэ і Кінкель на сустрэчы ў Гамбургу з іх польскім калегам Уліхоўскім. Яны намецілі планы для далейшага супрацоўніцтва.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

